№5 (188)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Сакавік 2015 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Беспрацоўным у Беларусі можна будзе лічыцца 12 месяцаў замест 36.**

Час уліку на біржы працы плануецца скараціць у рамках “прафілактыкі сацыяльнага ўтрыманства”.

У Беларусі плануецца ўтрая скараціць максімальны час уліку грамадзян у якасці беспрацоўных — з 36 да 12 каляндарных месяцаў. Як заявіў агенцтву БЕЛТА начальнік упраўлення палітыкі занятасці Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Алег Токун, гэтая мера дапаможа змагацца з сацыяльным утрыманствам.

Адпаведныя змены, кажа чыноўнік, мяркуецца ўнесці закон “Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь”. У праекце закона плануецца ўзмацніць адказнасць беспрацоўных за парушэнне заканадаўства аб занятасці, што падштурхне іх да больш актыўнага пошуку працы.

### У Прыдняпроўі

**На 1 января 2015 г. в хозяйствах всех категорий Могилёвской области** численность крупного рогатого скота составила 578,3 тыс. голов, что на 0,2% больше аналогичной даты предыдущего года, коров – 194 тыс. голов (на 1,7% больше),свиней – 271,6 тыс. голов (на 25,1% меньше), птицы – 7 400,7 тыс. голов (на 5,8% больше).

В 2014 году хозяйствами всех категорий области реализовано скота и птицы на убой (в живом весе) 198,3 тыс. тонн, что на 1,5% больше, чем в 2013 году, произведено молока– 753,1 тыс. тонн (на 1,3% меньше), яиц получено 409,8 млн. штук (на 4,1% меньше).

### У раёне

Згодна дадзеных магілёўскіх статыстыкаў, сярэдняя намінальная налічаная заработная плата працаўнікоў Бялыніцкага раёна ў студзені 2015 г. склала 5 019 983 рублёў.

У снежні 2014 года яна складала 5 600,8 тыс. рублёў.

# ДА ВЫБАРАЎ ЗАРПЛАТА ЗНІЗІЦЦА ЯШЧЭ БОЛЬШ?

***З 1 сакавіка ў Беларусі павысілі тарыфную стаўку першага разраду да 292 тысяч рублёў. У параўнанні з лютым стаўка павысілася на 5,4%.***




Павышэнне тарыфнай стаўкі азначае, што павысяцца заробкі ў работнікаў бюджэтнай сферы, бо яны адлічваюцца ад тарыфнай стаўкі першага разраду. Адначасова павялічацца памеры дзяржаўных стыпендый навучэнцам, даплат маладым спецыялістам, за вучоныя ступені, а таксама іншых выплат, якія залежаць ад тарыфнай стаўкі першага разраду.

Папярэдні раз тарыфная стаўка змянялася месяц таму. 1 лютага яна павялічылася на 2 тысячы рублёў (на 0,7%) і склала 277 тысяч.

Аднак абсалютная большасць незалежных беларускіх эканамістаў лічыць, што рэальная зарплата беларусаў пасля дэкларуемага падвышэння тарыфнай стаўкі першага разраду не толькі не падвысіцца, а, наадварот, знізіцца. Безумоўна, улады могуць надрукаваць патрэбную колькасць беларускіх рублёў, аднак ніякага эканамічнага росту ў краіне няма і гэтыя грошы проста ператворацца ў прыгожыя фанцікі, за якія нічога не купіш.

“Долары і еўра мы не друкуем, рост прыбыткаў можам забяспечыць толькі ў беларускіх рублях, што негатыўным чынам адаб’ецца на інфляцыі і курсе нацыянальнай валюты”, - лічыць эканаміст Аляксандр Чубрык.

Іншы вядомы эканаміст, кандыдат эканамічных навук Леанід Злотнікаў выказвае меркаванне, што сітуацыя ў беларускай эканоміцы зараз нашмат горшая, чым падчас крызісу 2010 года. На думку Злотнікава, Лукашэнка пачаў занадта рана падвышаць заработную плату. У параўнанні з 2010 г. даходы насельніцтва да сярэдзіны 2014 г. узраслі на 20 млрд. долараў (на 27% ВУП). Зараз для падтрымання грашовых даходаў насельніцтва нават на існуючым узроўні патрабуецца на 1,5 млрд. $ у месяц больш, чым гэта было ў 2010 годзе. Толькі на забеспячэнне роста рэальных даходаў было зрасходавана $ 12 млрд. за 2,5 гады прыцягнутых звонку рэсурсаў.

Аднак зараз Беларусі ў доўг ніхто даваць не хоча, менавіта таму так хутка скарачаюцца золата-валютныя рэзервы. Да таго ж эканоміка краіны губляе тэмпы росту, эфектыўнасць і рынкі збыту, таму Злотнікаў лічыць, што ўсё складаецца так, што да прэзідэнцкіх выбараў рэальная зарплата будзе падаць.

І новы расійскі крэдыт, лічаць эканамісты, у лепшым выпадку

*(Заканчэнне на стар. 2)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

## ДА ВЫБАРАЎ ЗАРПЛАТА ЗНІЗІЦЦА ЯШЧЭ БОЛЬШ?

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

дазволіць толькі захаваць пакупніцкую здольнасць насельніцтва на ўзроўні студзеня-лютага 2015 года, а не прывядзе да рэальнага росту прыбыткаў людзей.

Ну а тое, што будзе з беларускай эканомікай пасля прэзідэнцкіх выбараў, не бярэцца прадказаць ніхто. Усе разумеюць, што пазыкі, у любым выпадку, усё роўна прыйдзецца аддаваць.

Застаецца нагадаць, паважаныя чытачы, што,згодна афіцыйнаму прагнозу, рост рэальных грашовых даходаў насельніцтва ў 2015 годзе запланаваны на ўзроўні 1,1-1,5%, пры гэтым рост вытворчасці працы запланаваны на ўзроўні 1,5-2%.

Аднак я асабіста не вельмі веру нават ў гэтыя стрыманыя афіцыйныя прагнозы, вопыт падказвае, што незалежныя эканамісты нашмат часцей былі больш дакладнымі ў сваіх прадказаннях…

***Іван Барысаў***

## ЧАРГОВЫ ПРАДСТАЎНІК ШКЛОЎСКАЙ “ВЕРТЫКАЛІ” ПАТРАПІЎ ПАД СЛЕДСТВА

***Следчыя органы Магілёўскай вобласці расследуюць крымінальную справу ў адносінах чарговага прадстаўніка адміністрацыйнай вертыкалі з Шклоўскага раёна.***

Крыманальная справа ўзбуджана ў адносінах да былой кіруючай справамі Шклоўскага райвыканкама Людмілы Глякавай, паведамляе незалежная маланакладная газета “Шклоўінфо” (№4 за люты 2015 г.). Супраць былой райвыканкамаўскай чыноўніцы высоўваецца абвінавачванне ў крадзяжы шляхам злоўжывання ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі. Людміла Глякавава падазраецца ў крадзяжы 29 мільёнаў рублёў.

Зараз былая чыноўніца знахоходзіцца пад вартай, яна часткова прызнала сваю віну. Згодна неафіцыйнай інфармацыі, Людміла Глякава супрацоўнічае са следствам і імкнецца, каб абвінавачванне ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі было перакваліфікавана ў абвінавачванне ў махлярстве.

Неабходна адзначыць, што падчас сваёй працы на пасадзе кіруючай справамі Шклоўскага райвыканкама Людміла Глякава неаднаразова ўзначальвала тэрытарыяльныя і акруговыя камісіі падчас выбараў дэпутатаў розных узроўняў і на прэзідэнцкіх выбарах. Мясцовыя грамадскія актывісты добра памятаюць своеасаблівае стаўленне Людмілы Анатольеўны да дэмакратычных кандыдатаў…

Нагадаем, што напрыканцы мінулага года да 14 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці за аферу з закупкай племянной жывёлы для патрэб гаспадарак раёна быў асуджаны былы першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама Дзмітрый Мінянкоў. Таксама ў мінулым годзе следчымі органамі была ўзбуджана крымінальная справа за злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі ў адносінах да намесніка старшыні Шклоўскага райвыканкама па будаўніцтву і камунальнай гаспадарцы Яўгена Семянкевіча.

***Барыс Вырвіч***

# АБ ЧАРГОВАЙ ПРАФАНАЦЫІ САВЕТА МІНІСТРАЎ

***10 лютага 2015 г. Прэзідыум Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь на сваім пасяджанні адобрыў Нацыянальную стратэгію ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на перыяд да 2030 года.***

***Адкрываючы пасяджанне, прэм’ер-міністр РБ А. Кабякоў падкрэсліў, што перад аўтарамі стратэгіі стаяла задача – улічыць у ёй сусветныя тэндэнцыі, якія абумоўліваюць рызыкі для ўстойлівага развіцця нашай краіны.***

***Дакумент быў падтрыманы Прэзідыумам. У час пасяджання паступілі прапановы, з улікам якіх стратэгія будзе яшчэ дапрацавана і пазней зацверджана пастановай Савета Міністраў.***




Праект Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на перыяд да 2030 г. быў распрацаваны Навукова-даследчым эканамічным інстытутам і вынесены Міністэрствам эканомікі на грамадскае абмеркаванне яшчэ ў лістападзе 2014г.

Да ідэі напісання стратэгіі кіраўніцтва краіны схілілася пасля ўдзелу беларускай дэлегацыі ў Канферэнцыі ААН па ўстойліваму развіцці ў 2012 годзе, г.Рыа-дэ-Жанэйра.

Вызначаючы перспектывы бачання нашай краіны праз 15 год, аўтары Нацыянальнай стратэгіі выдзелілі пятнаццаць пунктаў у выпрацоўцы канкрэтных напрамкаў дзеянняў па асноўных кампанентах устойлівага развіцця.

Адзін з іх - №1, - вызначае, што Беларусь – незалежная прававая дэмакратычная дзяржава, захоўваючая сваю тэрытарыяльную цэласнасць і культурна-гістарычную спадчыну… Беларусь будучага – гэта бяспечная краіна, дзяржава законнасці і парадку, справядлівасці і салідарнасці, партнёрства і адказнасці, дзе захоўваюцца ўсе правы чалавека, надзейныя інстытуты абароны прыватнай уласнасці, прафесійна працуюць органы правапарадку, карыстаючыяся даверам грамадзян.

У пункце №4 пазначана, што асновай эканомікі з’яўляюцца канкурэнцыя і сучасныя развітыя інстытуты рынка. Значны ўклад у рост эканомікі належыць малому і сярэдняму бізнэсу, для развіцця якога забяспечаны роўны доступ да рэсурсаў, створана развітая інфраструктура, канкурэнтнае асяроддзе і сістэма гарантаванай абароны ўласнасці. Кожны грамадзянін можа паўнавартасна рэалізаваць сябе ў прадпрымальніцтве.

*(Заканчэнне на стар. 6)*

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА МАГІЛЁЎШЧЫНЫ: ТАКІ ВОСЬ “РОСКВІТ”

**“Ничем вас не удивлю, учить никого не надо: должна быть жесточайшая дисциплина, ибо вы будете по-прежнему нести на плечах эти нерадивые коллективы, колхозы, совхозы, СПК или унитарные предприятия… Заработал — получай, не заработал — никто на плечах никого нести не будет. Тем более, что у нас осталось меньшинство таких предприятий, которые не могут работать и подлежат глубокому реформированию, продаже. Поэтому у нас есть все возможности для того, чтобы людям сказать: будете работать — будете получать. Не будет работы, будете воровать, растаскивать, как прежде, хозяйства — тогда ничего и не получите. Поэтому надо напрягать тех руководителей, трудовые коллективы, которые будут вам подконтрольны, и ориентировать их на нормальную работу”…**

***Александр Лукашенко (Цитата по отчету БЕЛТА со встречи Президента с вновь назначенными управленцами 27 января 2015 года)***




Магілёўскія чыноўнікі з “ідэалагічнай вертыкалі” на апошнім “адзіным дні інфармавання насельніцтва” з імпэтам распавядалі ўдзячным працаўнікам вёскі ў розных рэгінах вобласці пра тое, што па выніках працы за 2014 год у сельгасарганізацыях Магілёўшчыны ў параўнанні з 2013 годам выраслі аб’ёмы вытворчасці збожжавых і зернебабовых культур больш чым на 27%, льнавалакна – на 15%, рапса – амаль на 7%, бульбы – на 8%, малака – на 0,1%, яго рэалізацыя – на 3%, вырошчванне жывёлы і птушкі (у жывой вазе) адпаведна на 3% і 5%.

Яны асабліва падкрэслівалі і тое, што рост вытворчасці прадукцыі дазволіў павялічыць у 1,3 разу атрыманне выручкі ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг, альбо ў памеры 9,8 трлн. рублёў, дасягнуць рэнтабельнасці продажаў амаль 7%, а таксама забяспечыць рост сярэднемесячнай заработнай платы ў сельскай гаспадарцы да ўзроўня 2013 года ў 1,2 разу (4243,7 тыс. рублёў).

Прачытаўшы святочны рапарт нашых слаўных чыноўнікаў ад ідэалогіі аб нечуваным росквіце сельскай гаспадаркі ў роднай Магілёўскай вобласці мяне агарнуў гонар за нашых працаўнікоў вёскі, за іх вялікія заробкі (ва ўсялякім выпадку, менавіта так лічаць нашы мудрыя ідэолагі), якія яны атрымліваюць за сваю сапраўды вельмі цяжкую і ненармаваную працу. На вочы навярнулася сляза шчасця і радасці, і перад затуманеным поглядам узнік ідылічны малюнак – абл- і райвыканкамаўскія чыноўнікі кідаюць свае абрыдлыя кабінеты і бягуць уладкоўвацца жывёлаводамі і трактарыстамі ў сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, каб атрымаць вялікія заробкі.

Прабачце мяне, паважаныя чытачы, што пішу з пэўным гумарам, аднак, чэсна кажучы, мне проста абрыдла слухаць і чытаць усю тую ахінею, якую кажуць і пішуць нашыя “мудрыя” чыноўнікі і іх верныя слугі з многіх рэгіянальных СМІ. Справа ў тым, што я сам жыву ў вёсцы, не адзін год адпрацаваў у галіне сельскай гаспадаркі, і выдатна ведаю, у якім месцы на сам рэч знаходзіцца сельская гаспадарка Магілёўшчыны.

Больш за тое, выдатна ведаюць гэта і нашы слаўныя чыноўнікі, і многія кіраўнікі гаспадарак, з якімі я рэгулярна кантактую, і якія ў адзін голас характэрызуюць яе сапраўдны стан у асноўным на нелітаратурнай частцы вялікай рускай мовы.

Ведае гэты сапраўдны стан сельскай гаспадаркі і кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка, што добра бачна з вынесеных у эпіграф яго словаў.

Каб не быць галаслоўным, паважаныя чытачы, прывяду толькі некалькі канкрэтных лічбаў і фактаў. У аграпрамысловым комплексе Магілёўскай вобласці маецца 180 прадпрыемстваў і арганізацый, якія займаюцца вытворчасцю сельгаспрадукцыі і ажыццяўляюць агратэхнічнае абслугоўванне сельскагаспадарчых арганізацый, 18 – якія ажыццяўляюць абслугоўванне і будаўніцтва меліарацыйных аб’ектаў, а таксама 19 перапрацоўваючых сельгаспрадукцыю арганізацый і 296 сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак. Усяго ў сферы АПК занята каля 40,3 тысяч працаўнікоў, альбо каля 8,24% занятага ў эканоміцы Магілёўскай вобласці насельніцтва.

Згодна афіцыйных дадзеных, на тэрыторыі Магілёўскай вобласці маецца 15 стратных сельскагаспадарчых арганізацый, што складае 7,7% ад агульнай колькасці стратных арганізацый вобласці. Сума іх чыстых страт складае звыш 187 мільярдаў рублёў.

Здаецца, не так ужо і шмат, але, як кажуць, д’ябал хаваецца ў дэталях. Калі адкінуць шматмільярдную

*(Працяг на стар. 4)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА МАГІЛЁЎШЧЫНЫ: ТАКІ ВОСЬ “РОСКВІТ”

*(Заканч. Пачатак на стар. 3)*

бязвыплатную дзяржаўную падтрымку сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і арганізацый Магілёўскай вобласці з дзяржаўнага бюджэту, то стратнымі будуць ужо больш за 60% такіх прадпрыемстваў. І ўсе гэтыя прадпрыемствы без дзяржаўных датацый проста не змогуць існаваць, бо яны ўжо даўно з’яўляюцца фактычнымі банкрутамі. Пра што казаць, калі зараз у большасці гаспадарак Магілёўскай вобласці адсутнічаюць абаротныя сродкі на вядзенне бягучай гаспадарчай дзейнасці і выплату заробкаў! Шмат дзе няма грошай нават на паліва для таго, каб запраўіць сельскагаспадарчую тэхніку, не кажучы ўжо аб сродках на набыццё запчастак для яе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

Між тым, толькі для правядзення гэтай самай веснавой сяўбы, згодна падлікаў аблсельгасхарчу, Магілёўскай вобласці патрабуецца каля двух трыльёнаў рублёў. І пакуль што ніхто не ведае, адкуль гэтыя грошы ўзяць. Плануецца, што 10% ад гэтай сумы знойдуць самі сельгаспрадпрыемствы (цікава, дзе?), ну а асноўную частку, як звычайна, выдзеліць дзяржава з бюджэту ў выглядзе крэдытаў і г. д.

Аднак колькі ж можна даваць? Самі праўладныя эканамісты падлічылі, што за апошнія дзесяць гадоў у сельскую гаспадарку было ўкладзена каля 40 мільярдаў долараў ЗША. На вялікі жаль, гэтыя шалёныя па беларускіх мерках грашовыя ўкладанні ў сельскагаспадарчую галіну не далі практычна ніякага значнага эфекту. Запазычанасць сельскагаспадарчых прадпремстваў значна перавышае іх гадавую выручку ад рэалізацыі ўсёй выраблenай прадукцыі і нават апошняму дурню зразумела, што яна ніколі не будзе пагашана.

І хоць мы добра ведаем аб тым, што зараз у беларускай дзяржавы няма сродкаў, каб падтрымліваць стратную сельскую гаспадарку, аднак не маю сумневу, што, безумоўна, на пасяўную яны будуць знойдзены – за кошт запуску друкарскага станка і чарговага вітка інфляцыі, якую мы,




шаноўныя чытачы, аплоцім з уласнай кішэні.

Хацелася б толькі, каб выдзеленыя сродкі не былі раскрадзены, як гэта часцяком адбываецца ў нашых гаспадарках. Самі ведаеце, паважаныя чытачы, колькі таго ж паліва рэалізуецца падчас веснавой сяўбы направа і налева простымі механізатарамі. Ну а таварышы пры ўладзе “зарабляюць” нашмат больш, нездарма сельскагаспадарчая галіна лічыцца адной з найбольш карумпаваных у Магілёўскай вобласці. Наогул, тут нельга не пагадзіцца з намеснікам пракурора Магілёўскай вобласці Сяргеем Сільвановічам, які некалі сказаў, што “нават чыста візуальна можна вызначыць, што належачыя многім асобам раскошныя асабнякі, дарагія транспартныя сродкі, немагчыма мець за тое грашовае забеспячэнне, якое яны атрымліваюць”.

Напрыканцы, паважаныя чытачы, крыху хацелася б спыніцца на “высокіх” сярэдніх заробках працаўнікоў вёскі Магілёўскай вобласці ў памеры 4 247,3 тыс. рублёў у месяц у мінулым 2014 годзе, у тым ліку ў снежні – 4 295 тыс. рублёў. Як кажуць, усё пазнаецца ў параўнанні, таму прывяду вам такі прыклад – намінальная налічаная сярэдняя зарплата ў Магілёўскай вобласці ў 2014 годзе склала 5 352,7 тыс. рублёў, у тым ліку ў снежні – 5 843,4 тыс. рублёў. Ну а тыя ж “гаротныя” чыноўнікі на сам рэч зарабляюць зусім нядрэнна - сярэдні заробак у сферы дзяржаўнага кіраўніцтва ў нашай краіне ў снежні 2014 г. склаў 8 539,7 тысячы рублёў.

Магчыма, менавіта з-за гэтага яны так любяць распавядаць прыгожыя казкі пра шчаслівае і заможнае жыццё працаўнікоў вёскі на Магілёўшчыне, аднак ні іх саміх, ні іх дзетак працаваць у сельскую гаспадарку колам не загоніш…

Наш зямляк, двойчы Герой сацыялістычнай працы Васілій Канстанцінавіч Старавойтаў калісьці сказаў, што “Няма ў свеце такой сілы, якая б прымусіла калгасніка добра працаваць у калгасе”. Пакуль гэтага не зразумеюць нашы чыноўнікі ад улады, усе “рэформы” якіх накіраваныя на захаванне той жа калгаснай сістэмы пад іншымі прыгожымі шыльдамі, ніякага “росквіту” сельскай гаспадаркі ў Магілёўскай вобласці і ва ўсёй нашай краіне чакаць не даводзіцца.

***Барыс Вырвіч***

## ЗАРПЛАТА ПАДАЕТ

Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Могилевской области в январе 2015 г. составила 5 257,2 тыс. рублей, и уменьшилась по сравнению с декабрем 2014 г. на 10%, или на 586,2 тыс. рублей.

Реальная заработная плата (заработная плата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) в январе 2015 г. по сравнению с январем 2014 г. уменьшилась на 5%, по сравнению с декабрем 2014 г. – на 12,1%.

# ШУМЯТ…

**10 февраля на первой странице главной газеты Могилёвской области «Могилёвские ведомости» появилась статья Г.Гаврилович под громким названием «К проблемам людей—без бюрократизма». В ней речь шла о сессии Могилёвского областного совета депутатов, на которой «слуги народа» и руководящий актив области анализировали проводимую в регионе работу по жизнеобеспечению населения, обращения граждан и дебюрократизации государственного аппарата.**




Вопрос, безусловно, очень актуальный и многогранный. Обсудив имеющие место недостатки «слуги народа» и приглашённые однозначно решили, что работу с обращениями граждан, их жизнеобеспечение надо улучшать. Похвально. Но как практически всегда происходит в нашем государстве, большая часть энергии уходить на проведение совещаний, а не на системную и постоянную работу с людьми. Рассмотрим это на примере проблемы обеспечения работой населения агрогородка Веремейки Чериковского района.

Как уже неоднократно писала негосударственная газета “Могилёвский Выбор”, во второй половине 2014 года на местном свинокомплексе ЧТУПП «Агрокомплекс «Светлый», по неофициальной, но достоверной информации была зафиксирована вспышка АЧС. Причина её возникновения так и не была точно выяснена. По мнению специалистов на комплексе в полной мере были соблюдены все противоэпидемиологические меры безопасности. Погибло только несколько голов свиней. Остальные, по информации работников комплекса и населения Веремеек , были вывезены, и , предположительно, забиты и переработаны на тушёнку на одном из мясокомбинатов республики.

Сегодня на комплексе, по информации работников «Светлого», — свиней нет. Работает только несколько человек из числа строителей и ветеринарных врачей, которые очищают и ремонтируют помещения, проводят дезинфекцию. По тем же источникам информации, к началу марта на комплекс планируется завести пробную партию свинопоголовья из соседнего Мстиславского района. Людей заверяют, на уровне администрации предприятия, что к лету у них появится работа. По словам специалистов «Светлого», ни какой АЧС на комплексе якобы нет.

Более трёх месяцев тому назад в Витебск завезли образцы свинины для анализа и выявления причины гибели животных, но до сих пор официального ответа нет. Нет по этому поводу, ни какой информации и в официальных СМИ. Фактически, власти держат население Веремеек, и не только, в режиме информационной изоляции, попирая тем самым все нормы Конституции РБ. Ведь ни для кого не секрет тот факт, что «кто владеет информацией, тот владеет всем миром». Лишая собственное население достоверной и своевременной информации, власть фактически отстраняет его от решения всех вопросов жизнеобеспечения.

То, что в свиноводческой отрасли Беларуси всё не так просто, как говорят чиновники с высоких трибун, экранов и страниц официальных СМИ косвенно подтвердила недавно «Сельская газета» («СГ»). Её постоянные читатели прекрасно знают и помнят, что все последние годы на её страницах регулярно печатаются таблицы с данными о работе районов и областей республики по производству молока и мяса за каждый квартал по нарастающей. Вот и 3 февраля «СГ» опубликовала такие данные по итогам работы за 2014 год, но при этом полностью исключила таблицы с информацией о итогах работы свинокомплексов Беларуси. Даже в текстовом сопровождении таблиц, нет ни одного слова о свиноводстве.

Исходя из всего вышесказанного, вызывает сомнение и объективность информации под названием «Свиноводство: пути возрождения», появившейся на страницах Могилёвской аграрной газеты «Земля и люди» («ЗЛ») от 11 февраля. Она дана в виде интервью журналистки газеты Д. Гараниновой с заместителем председателя комитета по сельскому хозяйству и продовольствию Могилёвского облисполкома Елены Шибут.

В своём интервью Е. Шибут, в частности, заявляет: «Сегодня все свиноводческие комплексы заполнены поголовьем в соответствии с проектной мощностью. За счёт улучшения технологии производства свинины

*(Окончание на стр. 6)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АБ ЧАРГОВАЙ ПРАФАНАЦЫІ САВЕТА МІНІСТРАЎ

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*

Бізнэсу выгодна і прэстыжна інвеставаць праекты па стварэнні сучаснай вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры.

А пункт №14 нават прысвечаны мясцоваму кіраванню і самакіраванню. Там сказана, што сістэма органаў мясцовага кіравання і самакіравання матывавана ў эфектыўным упраўленні мясцовымі рэсурсамі і нясе адказнасць за комплекснае развіццё сваіх тэрыторый, гарантуе фінансавую самастойнасць рэгіёнаў.

Яшчэ шмат чаго сказана ў дадзенай стратэгіі; аб прамысловасці, аб сельскай гаспадарцы, аб ЖКГ, аб неабходнасці пераходу да Балонскай сістэмы ў галіне адукацыі…

Ды чытаючы дадзены дакумент вельмі слаба верыцца ў яго практычную рэалізацыю. Бо разнастайных канцэпцый, праграмаў, пастановаў, рашэнняў у разнастайных сферах сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, скіраваных на “павышэнне ўзроўню жыцця беларускага народу”, за апошнія два дзесяцігоддзі было прынята вельмі багата. Але ж іх выкананне не прынесла для грамадзян ніякай карысці, а нярэдка – толькі шкоду.

Вось і зараз…

Аб якой законнасці і парадку, дзе захоўваюцца ўсе правы чалавека можа ісці размова, калі за часам распрацоўкі і прыняцця стратэгіі ў краіне за кратамі знаходзяцца незаконна асуджаныя палітычныя зняволеныя?

Аб якой справядлівасці і салідарнасці, партнёрстве і адказнасці мы можам казаць, калі ў Беларусі да гэтай пары затрымліваюцца і атрымліваюць пакаранне людзі, усклаўшыя кветкі ў знак салідарнасці з загінуўшымі актывістамі Майдану ў Кіеве і журналістамі ў Парыжы?

Аб якім захаванні культурна-гістарычнай спадчыны ідзе гаворка ў гэтым дакуменце, калі ў гэты ж час дзесяткі актывістаў партый і грамадскіх арганізацый падвяргаюцца рэпрэсіям з боку сілавых структраў і судоваму праследу толькі за наведванне і ўскладанне кветак да мясцінаў, звязаных з паўстаннем пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага?

Аб якой канкурэнцыі, якім развіцці




малога і сярэдняга бізнэсу ў Беларусі можна казаць, калі тут жа Указам №222 ад 16 мая 2014 году гэты бізнэс руйнуецца?...

У бліжэйшы час Урадам будзе прынята чарговая пастанова аб Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага развіцця Беларусі, і прэм’ер-міністр Кабякоў сваім подпісам зацвердзіць гэтую пастанову, як гэта рабілі ў свой час Сідорскі, Мясніковіч ды іншыя. І тут жа з “чыстым сумленнем”, калі яшчэ нават не паспеюць высахнуць чарнілы на яго подпісах, усе забудуцца аб ёй, як гэта было раней з іншымі падобнымі дакументамі.

А навошта абцяжарваць сябе памяццю аб іх? Бо тады ж неабходна рабіць намаганні па іх выкананні. А ў такім выпадку трэба будзе прымаць меры па рэфармаванні беларускага заканадаўства аб мясцовым самакіраванні, распрацоўцы стратэгій устойлівага развіцця для кожнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі краіны, як гэта патрабуе Еўрапейская Хартыя мясцовага самакіравання. А гэта зрабіць у сучасных умовах практычна немагчыма, бо чынавенства на месцах па свайму стану зараз не здольна падрыхтаваць неабходныя дакументы, адпавядаючыя міжнародным стандартам.

Дык для чаго ж распрацавана гэтая Нацыянальная стратэгія?

Ды толькі для таго, каб прадэманстраваць наяўнасць дадзенага дакумента перад міжнароднай супольнасцю і скарыстаць гэты факт у плане вырашэння пытанняў дзеля атрымання крэдытаў і фінансавай падтрымкі з боку Еўрапейскіх структураў на “развіццё беларускага грамадства і дэмакратыі”.

Трэба адзначыць, што паспяхова вырашаць пытанні па атрыманні фінансавай падтрымкі з Еўропы на развіццё беларускага грамадства, на іншыя праекты нашыя чыноўнікі навучыліся даўно. Вось толькі пытанне, як гэтыя фінансы выкарыстоўваюцца, ужо шмат год застаецца для беларускага грамадства закрытым. Ну, а як развіваецца само гэта грамадства, як развіваецца дэмакратыя ў нашай краіне, можа “змястоўна адчуць” на сваіх плячах любы грамадзянін Беларусі.

***Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў***

## ШУМЯТ…

*(Оконч. Начало на стр. 5)*

среднесуточные привесы на выращивании и откорме возросли к уровню 2013 года на 4 г.— до 536. За август – декабрь дополнительно отобрано для осеменения 5200 свинок». Прекрасно. Но если все комплексы заполнены в соответствии с проектной мощностью и приплюсовали по привесу на 4 грамма к уровню 2013 года, то почему в этом же интервью звучит следующее: «По итогам работы за январь—декабрь 2014 года в целом по области произведено 32,7 тыс. тонн свинины в живом весе или 79,5% к уровню 2013 года. Снижение объёмов производства свинины в той или иной степени допущено во всех районах, развивающих свиноводство. На 1 января численность свиней в сельхозорганизациях области сократилось к 2013 году на 25,9%. Только в Кировском и Климовичском районах отмечается рост поголовья на 8,8 и 4,6 % соответственно». Если внимательно почитать и сравнить всё написанное в «ЗЛ» от 11.02.2015 года исходя из слов Е. Шибут, то можно найти и ещё некоторые «нестыковки». На деле получается так, — пока верхи власти «шумят» и совещаются о том, как улучшить работу с населением, «низы» делают то, что считают нужным и удобным для себя. А, как уже давно известно, и как гласят библейские истины, на лжи и обмане людей ничего хорошего не построишь. СССР развалился, прежде всего, по этой причине.

***Вадим ЗАБРОДОВ***

# О ЧЁМ УМОЛЧАЛИ ГОСУДАРСТВЕННЫЕ СМИ?

**«…как бы хорошо человек ни говорил, помните: когда он говорит слишком много, то, в конце концов, скажет глупость».**

*А. Дюма-отец*

## ПОДЧИЩАЮТ

6 февраля этого года БелТА со ссылкой на Министерство финансов распространило информацию под названием «Беларусь существенно улучшила показатели экономической безопасности по государственному долгу». «Платежи по погашению и обслуживанию внешнего государственного долга без учёта погашения внешних краткосрочных займов составили 7,1% к валовой выручке (7,7% на 1.10. 2014 года). При пороговом значении 10%. Что касается платежей по обслуживанию внешнего и внутреннего государственного долга, то они на 1.01. 2015 года составляют 5,5% к доходам республиканского бюджета (пороговое значение 10%). На 1.10. 2014 года этот показатель был равен 6,7%. Показатели по внутреннему государственному долгу, который на 1.01. 2015 года составил 48,8 трлн. рублей, также в зоне экономической безопасности. Внутренний государственный долг находится на уровне 5,7% к ВВП при пороговом значении 20%».

Наверняка большинство наших читателей вряд ли обратили внимание на подобное сообщение, но сразу же заметим, что реальная цена его может равняться сотням миллионов долларов. Чтобы это понять, вернёмся к семичасовой пресс-конференции А. Лукашенко для журналистов, которую он провёл 29 января в Минске и которую так красочно расписали государственные СМИ.

## О ЧЁМ УМОЛЧАЛИ РАЙОННЫЕ И ОБЛАСТНЫЕ ГАЗЕТЫ?

Во время общения с журналистами А. Лукашенко, отвечая на вопрос корреспондента газеты «Белорусы и рынок», обвинил население Беларуси в ажиотажном спросе на валюту, что, по его мнению, стало психологическим фактором девальвации. Он напомнил, что в 2015 году государству нужно погасить внешний долг в размере 4 млрд. долларов. При этом, сравнив размер выплат в 2016 году, а это 1,7 млрд. долларов, заявил: «Если будет трудно, мы будем вести диалог о реструктуризации долга этого года».




Проводя подобные мероприятия, рассчитанные, прежде всего, на внутреннюю аудиторию, АГ не очень-то подбирал слова и выражения, уверенный, что это, как всегда, лично ему ничем не угрожает. Например, в 2010 году он пообещал народу, что к 2015 году средняя заработная плата достигнет 1000 долларов, если его изберут президентом. Избрали, не выполнил - ну и что? Всё равно сказал, что президентом буду!

Местная, так сказать, публика привыкла к тому, что белорусские чиновники легко путают слова, понятия, цифры, а потом пытаются оправдаться тем, что журналисты их не так поняли или вырвали что-то из контекста. Поэтому внутри белорусского медиапространства, произнесённое АГ слово «реструктуризация» (изменение порядка выплаты долга) большинством было воспринято как очередная оговорка. Но то, что без последствий проходит в Беларуси, совсем по-иному расценивается в цивилизованном мире. Появившаяся в иностранных информационных источниках фраза АГ произвела много шума в деловых кругах и дала повод для того, что котировки белорусских евробондов полетели вниз, теряя по 10-20%.

Через пару часов после сказанного АГ, когда ещё продолжалась пресс-конференция, Министерство финансов РБ выпустило пресс-релиз с опровержением сказанного президентом. «Республика Беларусь располагает необходимым объёмом ресурсов и набором финансовых инструментов для безусловного выполнения своих долговых обязательств в 2015 году. Вопрос реструктуризации долга не рассматривается. Правительством совместно с Национальным банком ведётся работа по привлечению средств для рефинансирования части долговых обязательств, как за счёт размещения государственных облигаций на внешних и внутренних рынках, так и межгосударственных займов», - говорилось в сообщении Минфина.

В это же самое время АГ, видимо, сообщили в президиум о случившемся на внешних рынках с белорусскими ценными бумагами.

## «РЕСТРУКТУРИЗАЦИЯ» ПРЕВРАТИЛАСЬ В «РЕФИНАНСИРОВАНИЕ»

И он стал оправдываться, заявив: «Если нам не удастся осуществить рефинансирование, то мы 4 млрд. долларов США выплатим. Эти деньги в бюджете есть. Поэтому метаться с нашими облигациями, продавать их по дешёвке абсолютно не надо. Мы не находимся в преддефолтном состоянии, чтобы не платить по долгам», - оправдывался А. Лукашенко

*(Окончание на стр. 8)*

## О ЧЁМ УМОЛЧАЛИ ГОСУДАРСТВЕННЫЕ СМИ?

*(Оконч. Начало на стр. 7)*

и успокаивал инвесторов. Для подтверждения своих слов он попросил прокомментировать ситуацию главу Нацбанка П. Каллаура. «Рефинансирование, или заимствование на внутренних и внешних рынках - это обычная практика. Если цена заимствования на внешних рынках будет нас устраивать, то мы этим инструментом будем пользоваться», - поддержал П. Каллаур АГ и продолжил: «Обеспечиваться это будет за счёт сбалансированной макроэкономической политики, в первую очередь за счёт диверсификации экспорта. Есть и другая сторона вопроса, которая интересна держателям наших ценных бумаг. В текущем году будет проводиться макроэкономическая политика в части, направленная на оптимизацию спроса. Все эти условия позволят обеспечить выплату обязательств».

### А ЧТО С РЕФИНАНСИРОВАНИЕМ?

Мы уже неоднократно рассказывали нашим читателям, что ситуация с выплатой внешнего долга для Беларуси в 2015 году очень серьёзная. Надо выплатить 4 млрд. долларов, которые очень не просто будет найти. Дело в том, что в бюджете на 2015 год предусмотрены не деньги на погашение евробондов, а именно их рефинансирование. Это означает, что для того, чтобы погасить 1 млрд. долларов долга, надо залезть в новые долги на сумму в 1 млрд. долларов. И если рефинансировать таким образом долг за счёт выпуска новых евробондов не удастся, то это придётся делать за счёт каких-то других займов. Собственных источников в бюджете 2015 года просто нет.

Поэтому уже сейчас надо начинать вести переговоры с держателями облигаций. И колебания котировок белорусских евробондов, вызванные непродуманными словами АГ, могут негативно сказаться на той стоимости, по которой мы сможем разместить новые евробонды. С учётом нынешней экономической ситуации в Беларуси, которую, безусловно, отслеживают потенциальные инвесторы, можно практически со 100% уверенностью говорить, что цена размещения, то есть, доход, который Беларусь возьмётся обеспечивать инвесторам, может оказаться очень высокой. По оценке независимых экспертов – более 10% годовых. Для сравнения: последний такой заём для Беларуси стоил порядка 7 - 7,5%.

В свете вышесказанного сегодня следует расценивать и поездку А. Лукашенко в Сочи на встречу с В. Путиным, и последние встречи в Европе министра иностранных дел В. Макея. Обанкротившийся режим судорожно ищет деньги для того, чтобы удержаться у власти.

***Вадим ВЛАДОВ***

## НА СМЕРТЬ НЕМЦОВА

Ну, кто там тайно празднует победу,
От нашего лица крича “Народ!”?
Пугая правду дулом пистолета,
И пулей из свинца заткнувши рот?
Со скорбной миной кто стоит у гроба,
Нелепой драмы завершая тур?
Ведь кто стрелял - был просто пешкой. Робот!
А кто же всё ж - великий драматург?
Во все века, кто песню пел свободе,
И кто боролся с властью подлецов,
Тиран тому, чтоб страх создать в народе,
Прилюдно горло заливал свинцом.
Как много крови! Как же много крови!
Народ, как в инквизиции тисках...
Кровавые тираны “перестроек”,
Построившие замки из песка.
Что ж, ваша власть - и в этом ваша сила!
Наместники насилия и зла!
Но, втайне, вы взбесились от бессилья,
Раз убивать пришлось из-за угла.
Вам слишком рано праздновать победу,
Напрасны ваши грязные труды!
От жертв святых принявши эстафету,
Мы лишь плотней сомкнём свои ряды!!!

***Зинаида Милещенко***

## БЫЛЫ ЖЫХАР МАШЧАНІЦЫ СТАЎ ДЫРЭКТАРАМ У ЦЯЦЕРЫНА

Напрыканцы лютага дырэктарам буйнейшага сельгаспрадпремства ў суседнім Круглянскім раёне – ЗАТ “ААБ – Агра Цяцерына” прызначаны Алег Вячаслававіч Шарснёў.

Алега Шарснёва даволі добра ведаюць у Бялыніцкім раёне, хоць сам ён з’яўляецца ўраджэнцам г. п. Краснаполле. У 2006 годзе пасля сканчэння БДСГА малады заатэхнік прыехаў працаваць у ААТ “Новая Друць”, атрымаў тут добраўпарадкаванае жыллё ў вёсцы Вялікая Машчаніца. У гэтай гаспадарцы Алег Вячаслававіч працаваў заатэхнікам, начальнікам жывёлагадоўчага комплекса, намеснікам дырэктара па кормавытворчасці.

Пасля працы ў “Новай Друці” Алег Шарснёў паспеў ужо пакіраваць двумя сельгаспрадпрыемствамі ў розных раёнах Магілёўскай вобласці – агракомплексам “Светлы” у Чэрыкаўскім раёне і саўгасам-камбінатам “Горкі” у Горацкім раёне. Зараз 31-гадовы спецыяліст будзе ўзначальваць валаўтваральнае сельгаспрадпрыемства ў Круглянскім раёне.

Дарэчы, былы дырэктар ЗАТ “ААБ – Агра Цяцерына” Уладзімір Чэрнікаў яшчэ некалькі месяцаў таму быў прызначаны кіраўніком буйнешай гаспадаркі ў Шклоўскім раёне – ААТ “Александрыйскае”.

***Іван Барысаў***

## ВОРУЮТ…

24 февраля Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по статье 205 часть 1 Уголовного Кодекса (Кража) в отношении неработающего жителя деряввя Светиловичи, 1985 г.р., который 14 февраля на улице в деревне Нежков после совместного распития спиртных напитков из кошелька пенсионера, местного жителя, 1937 г.р., похитил 500 000 рублей. Раскрыто участковым инспектором милиции, сообщает uvd.mogilev.by.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. E-mail: boris196608@bk.ru. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 05.03. 2015 г. у 10-00.